ТАМАРА АЎСЯННІКАВА

# ЛЮБАЧКА



УДК 821.161.3
ББК 84(4 Беи)
А93

**Аўсяннікава, Т. П.**
А93 ЛЮБАЧКА: замалёўкі/Тамара Аўсяннікава. — Г.: D&D, 2011 — 88с.

У кнігу ўвайшлі замалёўкі з жыцця вясковай дзяўчынкі. Яны выклікаюць усмешку, пачуццё светлага суму і спагады да лёсу Любачкі, знаёмяць нас з побытам беларускай вёскі і духоўнымі памкненнямі галоўнай гераіні.

УДК 821.161.3
ББК 84(4 Беи)

ISBN: 978-83-930867-4-0

На міг дыханне затаіць
І растварыць сябе ў прыродзе.
Адчуць,
что час стаіць,
А мы?
А мы — праходзім.
Старая ісціна, як свет,
Табою створаны, Гасподзе.
...Вось бацькаў след…
Вось матчын след…
Праходзім мы,
праходзім…

**Алесь Пісьмянкоў**
**«Старая ісціна»**

# ЛЮБАЧКА

У адной вёсцы, што на Лоеўшчыне, праз чатыры гады пасля Вялікай Айчыннай вайны нарадзілася дзяўчынка. І назвалі яе Любачка. Дзяцінства дзяўчынкі было такое ж, як і ва ўсіх вясковых дзяцей, але і адрознівалася. Якія гісторыі здараліся з Любачкай, я вам раскажу, бо добра ведаю гэтую дзяўчынку і зараз сябрую з ёю. Толькі завуць яе цяпер не Любачка, а Любоў Пятроўна.

Любачка нарадзілася ў сям'і Пятра і Мар'і. Чакалі хлопчыка. А яна, ні ў кога не запытаўшыся, узяла дый нарадзілася. Маленькі кулёчак з чырвоным зморшчаным тварыкам ляжаў на падушцы, мірна цмокаў губкамі і не ведаў, што яго чакае.

Бацькі Любачкі – ужо немаладыя людзі. Мар'і – сорак два гады, а Пятру – пяцьдзесят два. У яго за плячамі Першая сусветная вайна. Яму пашчасціла вярнуцца жывым з Другой сусветнай вайны, вытрымаць блакаду Ленінграда. Перамогу ён сустрэў у Берліне. Але здароўе было падарвана. І жонка Пятра хварэла на сухоты, памерла яна маладой, пакінуўшы яму трох



маленькіх дзяўчынак. Дваццаць шэсць гадоў Пятро хадзіў удаўцом, пакуль не выдаў сваіх дачок замуж.

У сваты да Мар'і прыходзілі аж дваццаць два разы. Ад некаторых жаніхоў ёй прыйшлося ўцякаць босай па снезе. Але замуж яна выйшла за таго, за каго і хацела выйсці. Казалі, што жылі яны добра, што Іван насіў Мар'ю на руках. Нажылі трое дзяцей. Старэйшая дачка памерла ад тыфу ў час Вялікай Айчыннай вайны, сярэдняя ўжо нявеста і збіраецца замуж, а меншай – дзесяць гадоў. Муж Мар'і прапаў без вестак. І яна згадзілася выйсці за Пятра не толькі таму, што адной цяжка, а й таму, што спадабаўся: і заляцаўся прыгожа, і рукі залатыя, і ва ўсім пачуццё меры было.

Летам Любачка заўсёды каля бацькі была. Ён хварэў і часта сталярныя работы для калгаса выконваў дома. Бацька вучыў Любачку і гэблік у руках трымаць, і рашпіль. Яна дапамагала яму: паднесці тое-сёе, падаць. А калі Любачка падрасла, то і касіла, і торф капала, пад наглядам бацькі, канешне.

Зімою Любачка была каля маці. Прадзе маці кудзелю і чытае на памяць вершы. Яна

мела чатыры класы царкоўнапрыходскай школы. Менавіта ў школе праявілася яе схільнасць да паэзіі. Самым любімым быў верш Нікіціна “Жена ямщика”. Марыя так пранікнёна яго чытала, што Любачка заўсёды плакала. Слухала яна і пра “несжатую полоску”, і пра “грозу в начале мая”, і “Я пришёл к тебе с приветом рассказать, что солнце встало”, і пра “мороз і солнце”, і пра тое, як “в крещенский вечерок девушки гадали”, але і ад іх у Любачкі казытала ў носе і набягалі слёзы.

Іншы раз маці расказвала казкі, спявала народныя або царкоўныя песні. Маці Любачкі вельмі хацела вучыцца далей, але яе маці, бабуля Любачкі, гаварыла: “Дзеўцы вучоба не трэба”. І калі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі прадстаўнікі новай савецкай улады шукалі таленты, то ў хоры пры невялікай царкве на Гомельшчыне звярнулі ўвагу на дзяўчынку з чыстым голасам і дыяпазонам амаль у тры актавы. Мар’я магла вучыцца ў Маскве, але яе маці абурылася: “А хто будзе кудзелю прасці і кросны ткаць?”

Любачка расла юркай і непаседлівай. Адзенне на ёй не рвалася, а гарэла. Маці не



паспее пашыць Любачцы сукенку ці світку, як вопратка ўжо ў дзірках. Маці толькі ўздыхала, але не сварылася, таму што ведала, віны Любачкі тут мала: пашый яна з новай тканіны – і світка насілася б даўжэй, а са старой, вынашанай і выцвілай на сонцы сарочкі ці спадніцы якая там крэпасць. Бывалі выпадкі, калі Любачка і сама дапамагала хутчэй спаднічцы парвацца. Аднаго разу сядзіць  Любачка на печы і ад нечага рабіць цярэбіць падол спаднічкі. Яе пальчыкі патрапілі на слабае месца тканіны - Любачка з цікавасцю разглядала дзіркі, у якія трапілі яе пальчыкі. Мар'я ўбачыла донечку за гэтым заняткам і спытала:

– Любачка, навошта ты сукенку рвеш?

– Я не рву, яна сама парвалася. Мамачка, цяпер ты мне новую пашыеш.



# НОВАЯ СУКЕНКА

Мама пашыла Любачцы новую сукенку, і не са сваёй парванай спадніцы, а з новай фланелевай тканіны блакітнага, як неба, колеру. І па гэтым блакіце быццам бы хто рассыпаў маленькія чырвоныя кветачкі. Маці нават употай выцерла слязу-шкадаванне, што так рэдка выпадае парадаваць сваё "сонейка" падарункам. Любачцы не цярпелася хутчэй пабегчы на вуліцу і пахваліцца новай сукенкай. Дзеці ў вёсцы з вельмі малога ўзросту бегалі вольна, без нагляду бацькоў, але пад пільным вокам дарослых. І бацькі заўсёды ведалі, дзе і як гулялі іх дзеці, да каго залезлі ў агарод. Любачка была ўжо вялікай дзяўчынкай, мела чатыры гады. І калі яна набегалася ўволю і нахвалілася новай сукенкай, то задаволеная вярнулася дадому, але там нікога не было. Любачка села на ганак, заплюшчыла вочы, і ёй чуліся галасы:

– Ой, Любачка, якая ў цябе прыгожая сукенка!

– А якія кветачкі прыгожыя!

– Хто табе пашыў?

– Мама, – з радасцю адказвала ім дзяўчынка.

Любачка расплюшчыла вочы і стала



сачыць за воблакамі, якія, нібы снежныя горы, плылі па небе. Ад іх аддзяляліся аблачынкі і ўмомант ператвараліся то ў ягнятка, то ў жарабя, то ў вялізнага белага мядзведзя, а то ў статак гусей... «Цікава, з чаго зроблены гэтыя воблакі: са снегу ці з пуху? Вось бы пакатацца на іх!» – падумала дзяўчынка. Яе ўвагу прыцягнула дрэва з абрэзанымі галькамі, што стаяла ў двары. На голькі-рагаціны маці вешала сушыцца чыстыя гладышы, чыгункі і гаршкі. Дрэва было пустое і даставала аж да неба. Любачка ўзабралася на самы верх, але воблакі чамусьці аказаліся высока. Некаторы час яна з цікавасцю сачыла за фантастычнымі пераўтварэннямі, але стаяць было нязручна. Дзяўчынка ўздыхнула і пачала спускацца ўніз. Вось незадача: сукенка зачапілася за сук, і Любачка павісла. Яна не плакала – проста вісела і думала аб чымсьці сваім. У гэты час па вуліцы ішоў дзядзька Васіль, Логвінаў. Логвінам звалі яго бацьку, які працаваў у краме. Любачка думала, што ўсіх, хто працуе ў краме, завуць Логвінамі. Дзядзька Васіль нікольні не здзівіўся, бо Любачка часта трапляла ў такія незвычайныя абставіны.

– Ну што, вісіш? – спытаў ён.
– Ага.
– А чаго лазіла?
– Хацела паглядзець, з чаго воблакі зроблены, і пакатацца на іх.
– Са снегу. Ах ты, наша дапытлівая летуценніца, – уздыхнуў дзядзька Васіль і паставіў дзяўчынку на зямлю.
– Пашанцавала табе, новая сукенка не парвалася, – дадаў ён.





# ВЕТЛІВАЯ ДЗЯЎЧЫНКА

Шукалі Любачку ўсім сялом. Усе бачылі трохгадовую дзяўчынку. Яна сядзела на лавачцы каля сваёй хаты і кожнаму, хто праходзіў, гаварыла:

– Дластуйце.

– Доблы дзень нам у хату.

– І Вам дластуйце.

Усе хвалілі Любачку за ветлівасць. А вось куды падзелася дзіця, ніхто не ведаў: ні дзеці, ні дарослыя. Бацька і маці, знямоглыя ад трывогі і пошукаў (на дварэ ўжо вечарэла), зайшлі ў хату і селі на канапу. Жанчына не вытрымала і расплакалася. З-пад ложка вылезла Любачка, кінулася да маці і пачала таксама плакаць.

– Любачка, ты што рабіла пад ложкам?

– Гуляла, а потым заснула.

І дзяўчынка палезла пад ложак, выцягнула адтуль свае цацкі, і падушку, і посцілку. Бацькі з палёгкай уздыхнулі. Маці пачала збіраць вячэру.

# ДАПЫТЛІВАЯ ДЗЯЎЧЫНКА

Любачцы да ўсяго хацелася дайсці самой. Яна страціла надзею атрымаць адказы на ўсе свае пытанні ад дарослых. Несур'ёзна тыя адносіліся да яе цікаўнасці. А Любачка жадала ведаць, як адчуваюць сябе птушкі на дрэве ў вялікі вецер, і яна ўзбіралася на самую верхавіну і раскачвалася, а дарослыя толькі сварыліся. Чаму яшчарка пакідае свой хвост, калі на яе наступіш? Чаму дзядзька Мікіта не глядзіць на малых дзяцей, калі ідзе па вуліцы? І чаму буслы так любяць стаяць каля коміна?

І вось у адзін святочны дзень Любачка зноў убачыла бусла на сваёй хаце. Побач нікога не было, каб перашкодзіць ёй. Любачка па лесвіцы лёгка ўзабралася на хлеў, які ўпрытык стаяў з хатаю, а адтуль па саламянаму даху дабралася да коміна. Бусел здзіўлена паглядзеў на дзяўчынку і пераляцеў на другую хату. Задаволеная Любачка заняла месца каля коміна і агледзелася. Яна бачыла дамы, дрэвы, людзей – усё выглядала незвычайна і прыгожа.

А ў гэты час на другім баку вуліцы на лавачцы сядзела маці з суседкамі. Адна з іх



убачыла Любачку і ад жаху не магла вымавіць ні слова, толькі рукой паказала на дах. Маці Любачкі папрасіла ўсіх сядзець ціха, а сама ўстала, выйшла на сярэдзіну вуліцы і, не адрываючыся, пачала глядзець на дачушку. Калі погляды іх сустрэліся, жанчына лагодна загаварыла: «І як жа мая донечка так высока залезла. Вось малайчына. А цяпер пакажы маме, як ты трымалася за саломку. Вось так, добра, спускайся, ціхенька, не спяшайся. Мая донечка ўмее  акуратненька злазіць». І толькі калі крывіначка аказалася ў яе на руках, ад сэрца адлягло, але ногі не слухаліся. Маці прытуліла да сябе Любачку і апусцілася на ганак. Дзяўчынка радасна зашчабятала. Яна расказвала аб сваіх уражаннях.



# ПАСЛУХМЯНАЯ ДЗЯЎЧЫНКА

Маці Любачкі гнала гарэлку. Любачка круцілася пад нагамі і прасілася на вуліцу. Жанчына строга-настрага наказала Любачцы нікому не гаварыць, што яна гоніць гарэлку.

Дзяўчынка прымасцілася на лавачцы каля хаты і ад нечага рабіць гойдала нагамі. Калі хто-небудзь з аднавяскоўцаў праходзіў міма, Любачка гаварыла:

– А я нікому не скажу, што мая мама гарэлку гоніць.





# ХЛЕБ З МАСЛАМ

Пасля вайны людзі жылі небагата. Але ж дзеці не ведалі іншага жыцця. У іх былі свае гульні і забавы. На вуліцу яны выбягалі з ладнымі лустамі хлеба і выхваляліся адзін перад адным, у каго смачнейшы:

– У мяне хлеб з маслам.

– А ў мяне – з салам.

– А ў мяне – з цукрам.

– А ў мяне – з алеем і цукрам.

Любачка чакала, пакуль маці і ёй адрэжа хлеба. “Мама, дай мне скрылік сала“, – папрасіла дзяўчынка, атрымаўшы хлеб. “Няма сала, донечка”. – “Тады памаж хлеб хоць здорыкам*. – “І здорыку, донечка, няма”, – цяжка ўздыхнула маці.

Як толькі Любачка выйшла на вуліцу, дзеці наперабой сталі пытаць:

– У цябе з чым хлеб?

– З маслам, – няўпэўнена адказала Любачка.

– Пакажы.

– Не пакажу.

– Маніш, у цябе без масла. Ваша карова здохла, – выпаліў Пеця.

Любачка заплакала і пабегла дамоў. Ёй стала крыўдна не толькі таму, што хлеб быў

без масла. Яна шкадавала Лыску, якая ад голаду не магла ўстаць на ногі. Кароўцы скармілі ўсю салому, якой быў накрыты хлеў, але гэта не ўратавала Лыску.

– Мамачка, – усхліпвала дзяўчынка, – а давай купім казу. Ёй жа менш сена трэба. І ў нас будзе малако і масла.

– Купім, абавязкова купім, – адказала маці і абняла дачушку.



**Здор* – *нутраное свіное сала.*



# САЛОДКАЯ КЛЯМКА

Усе ў вёсцы ведалі, як Любачка любіць салодкае. І вось аднойчы сусед, дзядзька Іван, пытае ў Любачкі, ці хоча яна цукерку. Чаго тут пытаць і так зразумела. Дзяўчынка, не верачы ў такое шчасце, нясмела кіўнула. «А ці ведаеш ты, што зімою клямкі* салодкія?» – спытаў дзядзька Іван. Дзяўчынка моўчкі пакруціла галавой, маўляў, не. «А ты ідзі, паспытай», – прапанаваў сусед. Любачка кінулася да сваіх дзвярэй і няўпэўнена лізнула клямку. Лізнуць ёй, канешне, не давялося, таму што язык адразу ж прыліп да металічнай ручкі. Колькі ж было енку! З языка ішла кроў. Любачка некалькі дзён не магла есці, так балеў язык. Ёй было няўцям, чаму дарослы дзядзька так пасмяяўся з яе ды яшчэ ўсім расказваў і рагатаў.

***Клямка* – *металічная ручка.*

# МЫШЫНЫЯ ЗУБКІ

Бацька Любачкі пасадзіў сад. І вось настала вясна, калі яблынькі зацвілі першы раз. Кветкі апалі, і пачалі завязвацца маленькія яблычкі. Але выспяваць застаўся ўсяго адзін яблычак на самым маленькім дрэўцы. Дзядзька Пятро разам са сваёй дачушкай Любачкай амаль кожны дзень хадзіў глядзець на яго. І кожны раз бацька ґаварыў Любачцы, што трэба пачакаць, каб яблык добра паспеў. Але дзяўчынцы надакучыла чакаць. Калі нікога не было дома, яна ўзяла ўслончык*, паставіла каля дрэўца, залезла на ўслончык і адкусіла невялікі кавалачак яблыка. Вечарам бацька запытаўся:

– Любачка, ці бачыла ты мышку ў нашым садзе?

– Не, не бачыла, – адказала дзяўчынка.

– Нейкая мышка грызла наш яблычак. А зубкі ў той мышкі, як у нашай Любачкі.

– Я толькі паспытаць хацела, – пралепятала Любачка і пачырванела.

– Ці смачны яблык? – спытаў бацька.

– Не, яшчэ не смачны.

**Услончык – невялікі табурэт.*

# ЯК ЛЮБАЧКА ЦУКЕРКІ КУПЛЯЛА

Больш за ўсё на свеце Любачцы хацелася салодкага. У краме прадаваліся цукеркі, але не было грошай, каб купіць. Дзеці расказалі дзяўчынцы, што дзед Логвін дае цукеркі за курыныя яечкі. Любачка ўзяла два яечкі, паклала адно ў адну кішэню, а другое ў другую і пабегла ў краму. Дзверы ў краме цяжка адчыняліся, таму Любачка пачала дапамагаць сабе спачатку левым бокам, а потым правым. Нарэшце яна ўвайшла ў памяшканне, павіталася, хуценька засунула рукі ў кішэні і расплакалася. Дзед Логвін зразумеў усё і, каб суцешыць Любачку, даў ёй адну падушачку*.

У наступны раз Любачка вырашыла з яечкамі не звязвацца. У буфеце яна знайшла некалькі паперак, узяла адну з іх і пабегла па цукеркі. Дзед Логвін даў ёй зноў усяго адну падушачку. Любачка была расчаравана. Паперка, якую аднесла дзяўчынка ў краму, аказалася аблігацыяй, яе Логвін вярнуў бацькам Любачкі, а тыя правялі з Любачкаю выхаваўчую работу.

Цукерак Любачка ўсё ж дачакалася – захварэла на адзёр*. Яе скура пакрылася



чырвонымі плямамі, вочы баяліся святла, таму вокны ў хаце маці пазанавешвала. Есці дзяўчынцы нічога не хацелася, і мама прынесла Любачцы сто грамаў цукерак: не падушачак, а шакаладных. Але Любачцы было так дрэнна, што яна нават ад цукерак адмовілася: “Мама, з’еш  сама”. Але ж, калі пайшла на папраўку, успомніла пра цукеркі. Яны, вядома, яе дачакаліся.



**Падушачкі—гатунак цукерак з начынкай, якія нагадваюць па форме падушку.*

**Адзёр, адру (рус. корь) – заразная, пераважна дзіцячая хвароба, якая суправаджаецца высыпкай, запаленнем дыхальных шляхоў і гарачкай.*

# ЗАКОЛКА

У Любачкі была стрыечная сястра Наташа. Яна жыла і працавала ў Маскве. У адзін з прыездаў сястра падарыла Любачцы заколку, вельмі прыгожую. Заколак наогул у вёсцы ні ў кога не было, абыходзіліся грабеньчыкамі і стужкамі. Гэтая заколка прынесла дзяўчынцы многа радасці і многа смутку. Згубіла Любачка заколку. Прыбегла дадому ўся ў слязах. «Не плач, – сказаў тата, – там, дзе ты пасеяла сваю заколку, вясною вырасце многа такіх заколак». Бацька ўзяў дачушку на рукі і пачаў расказваць аб тым, як Любачка вясною будзе збіраць заколкі і якія яны будуць прыгожыя. Дзяўчынка супакоілася і заснула. Ёй снілася, што ідуць яны з сяброўкай Нінай па дарозе і абапал дарогі растуць кветкі, і на кожнай сцяблінцы – заколкі, заколкі, заколкі...

Прыйшла вясна. Зацвіла чаромха. Любачка стала шукаць, ці не выраслі заколкі. Старэйшая дзяўчынка Каця, якая ўжо хадзіла ў школу, пасмяялася з Любачкі, з яе неразумнасці.



# «ТАТАЧКА, РОДНЕНЬКІ, НЕ БІ КАНЯ!»

Бацька Любачкі збіраўся на кірмаш у Лоеў. Трэба было купіць парасятка. Любачцы так хацелася ўбачыць Лоеў! «Татачка, вазьмі мяне з сабою, – прасілася Любачка. – Мамачка, адпусці мяне з татам». Бацькі здаліся.

На досвітку бацька дзяўчынкі запрог каня, пасадзіў Любачку на воз, і яны паехалі. Па вуліцы конь ішоў ціха, не спяшаючыся. Калі выехалі за вёску, мужчына прыцмокнуў: «Но-о-о, саколік!» – і ўзмахнуў лейцамі. Любачка ў слёзы: «Татачка, родненькі, не бі каня!»

– Ты што, дурненькая, я не б'ю, я толькі падганяю, каб хутчэй ішоў.

– Не, татачка, ты ж яго лейцамі хацеў ударыць. Яму ж будзе балець.

Бацька спрабаваў растлумачыць Любачцы, што так яны будуць доўга ехаць, – не дапамагала. Урэшце ён зміўрыўся. У Лоеў прыехалі, як кажуць, у свіныя галасы.

# ВАЛЁНКІ

Вясковая дзетвара знаходзіла сабе занятак у любую пару года. Зімою каталіся на санках, а яшчэ любілі «гнуць падушачкі». Так называлася беганне па тонкім лёдзе на балотцы. Вада не паспее добра замерзнуць, а дзеці ўжо коўзаюцца, бегаюць па лёдзе. Лёд трэскаецца і на месцы следу ўтвараецца палонка. За такім заняткам вызначалі смялейшага. На шчасце, трагічных наступстваў не было: балотца мелкае. Але правальваліся часта, дадому прыбягалі з мокрымі нагамі. А каб бацькі не даведаліся пра забаву, Любачка разам з дзецьмі заходзіла да сяброўкі Ніны і сушылася. І ў гэты раз усе зайшлі да Ніны. Валёнкі паставілі на грубку, а самі палезлі на печ. Праз некаторы час іх увагу прыцягнуў пах. Яны зразумелі, што гараць валёнкі, але было ўжо позна. На месцы падэшвы ва ўсіх валёнках зрабіліся дзіркі.



# РЫНАЧНЫЯ АДНОСІНЫ

Чым займаліся вясковыя дзеці летам? Пасвілі гусей, лавілі рыбу ў рэчцы. Любачка таксама лавіла рыбу, кошыкам. Трапляліся плоткі, шчупачкі, пяскарыкі і нават сомікі і ўюны. Усіх яна складвала ў палатняную торбачку. Але калі даходзіла чарга да ўюна, то не магла ўзяць яго ў рукі, таму што падобны быў на маленькага вужыка ці нават на змяю. Любачка страх як баялася паўзуноў. З гэтай нагоды даводзілася прасіць дапамогі ў каго-небудзь з рыбакоў. Але амаль ніхто не згаджаўся дапамагчы дарма, трэба было аддаць такога ж уюна альбо шчупачка. Сама Любачка ўюноў не ела, але ведала, што яе мама вельмі любіць з уюнамі боршч, – і на ўмовы згаджалася.



# ПРЫЕХАЛА КАЛЯДА НА СІВЫХ КОНЯХ

Кожны год перад Калядамі вечарам, калі сцямнее, маці Любачкі ўваходзіла ў хату з сенам у руках і нязменна паведамляла: "Прыехала Каляда на сівых конях". Клала сена ў кут пад абразамі, накрывала вышываным ручніком і ставіла куццю – ячменную кашу. І кожны раз Любачка абуралася, што зноў маці без яе сустрэла Каляду. Ёй вельмі хацелася пабачыць, якая яна, тая Каляда? Маці абяцала, што ў наступным годзе абавязкова возьме з сабою Любачку. А позна вечарам хлопцы і дзяўчаты хадзілі па вёсцы, пелі калядныя песні і праслаўлялі гаспадароў. І кожны гаспадар выносіў калядоўшчыкам шчодрыя гасцінцы. Малыя шчадравалі ўдзень. Суседка баба Зена навучыла Любачку пець "Вішаньку":

А ў полі, ў полі вішанька стаіць.
Святы вечар.
На той вішаньцы свечачка гарыць.
Святы вечар.

Любачка ніяк не магла зразумець, чаму вучням забаранялася шчадраваць. Дарослыя шчадравалі, дзеці шчадравалі, а вучні не



маглі.

Аднойчы ў пачатковай школе Любачку прымусілі пець "Вішаньку" перад усім класам: нехта данёс, што бачыў Любачку, як яна заходзіла ў хату да сваёй хроснай маці, значыць, хадзіла шчадраваць.



*Фрагмент малюнка А.Капцюга*

# МОНА ЛІТА

Маці Любачкі была жанчынай набожнай. Святымі вечарамі яна чытала на старaславянскай мове "Біблію", якую прывёз ёй бацька з Першай сусветнай вайны. Пасля рэвалюцыі новая савецкая ўлада адмаўляла існаванне Бога. Вера лічылася пражыткам, цэрквы разбураліся. Але маці Любачкі, як і многія аднавясцоўцы, верыла ў Бога, прытрымлівалася рэлігійных святаў, чытала ранішнія і вячэрнія малітвы. У чырвоным куце вісела ікона. Але гэтая ікона адрознівалася ад тых, якія Любачка бачыла ў суседзяў. Іх ікона была самая прыгожая. Калі Любачка вырасла, то даведалася, што замест іконы ў іх вісела рэпрадукцыя карціны Леанарда да Вінчы "Мона Літа".

Трэба сказаць, што ў хаце Любачкі на сценах было многа рэпрадукцый карцін вядомых мастакоў і фотаздымкаў артыстаў. Ілюстрацыі бралі з часопіса "Огонёк". Вясковы бібліятэкар аддавала жанчыне спісаныя часопісы. Маці Любачкі вельмі любіла свае карціны і нават размаўляла з імі: "Ну што, сыраежка,* не баляць у цябе ногі?" – пыталася яна ў Галіны Уланавай,



якая стаяла на адной назе, а другую нагу адводзіла высока назад. Некаторы час моўчкі глядзела на фотаздымак, потым ўздыхала і ішла па сваіх справах.

**Сыраежка – так называлі вясковыя жанчыны балерын за падабенства белай пачкі з сыраежкай.*

## ЖАЛАСЛІВАЯ ДЗЯЎЧЫНКА

Любачку прыцягвала ўсё прыгожае. Яна вельмі любіла час, калі цвілі сады, асабліва яблыневыя. Любіла рамонкі. Любіла валошкі – яны пахлі цукеркамі-падушачкамі. Любіла сядзець на беразе рэчкі і глядзець на ваду, на рыбак. Любіла гусей, коней, кацянятак. А сабак баялася. У яе былі тры прыгожыя кошачкі. Яны выраслі, і ў кожнай нарадзілася па шэсць маленькіх кацянятак. Любачка ад іх не адыходзіла, плакала і прасіла не тапіць. Яна ўжо ведала, што маленькіх кацянятак топяць, калі іх вельмі многа. Бацькі зноў саступілі. Такім чынам, у двары былі 3 дарослыя кошкі і падрастала 18 прыгожанькіх кацянатак рознай масці. Любачка з імі бавіла свой вольны час. Бацькі ўжо не раз пашкадавалі, што пайшлі на павадку ў дзіцяці. Але як ты не пойдзеш – дзяўчынка расла такой уражлівай. Бацька выконваў усе просьбы дачушкі. Калі кацянятка ці куранятка па нейкай прычыне гінула, то ім Любачка рабіла сапраўднае пахаванне, толькі што музыкі не было. Бацька майстраваў шкляную труну, туды клалі загінуўшага, неслі за агарод і закопвалі, а Любачка аплаквала.



# ЯК ЛЮБАЧКА ДЗІНУ ВЫРАТАВАЛА

Любачка сядзела на беразе рэчкі і думала аб нечым сваім.

– Любачка, што робіш? – пыталіся дзеці.

– Думаю.

– А пра што думаеш? – дапытваліся некаторыя.

– А ні пра што, – адказвала Любачка і працягвала думаць.

– Пайшлі купацца, – звалі дзяўчынкі.

– Не, не пайду, цыпкі* баляць.

Думкі Любачкі парушыў дружны рогат. “Глядзіце, глядзіце, як Дзіна нырца дае“, – весела крычаў Коля. Дзіна – трохгадовая дзяўчынка настаўніцы Ксеніі Лаўрэнцьеўны – то апускалася пад ваду, то ўсплывала. Любачка не зразумела, а хутчэй адчула, што тут штосьці не так. Яна кінулася да вады і вынесла Дзіну на бераг. Што было далей, Любачка ўжо не помніла, але ўсе гаварылі, што яна выратавала Дзіну. Нават Ксенія Лаўрэнцьеўна прыходзіла да іх у хату, распытвала Любачку, як яна здагадалася, што Дзіна топіцца, і хваліла за смелы учынак.

**Цыпкі – дробныя трэшчыны на скуры ног (ад ветру і вады).*

# ШУБКА

Кожнае лета да Любачкіных дзядулі і бабулі прыязджалі госці. Яны даводзіліся Любачцы стрыечнымі братамі і сёстрамі і былі  намнога старэйшымі за Любачку, а іх дзеці – яе равеснікамі. І вось прыехала сястра Поля з мужам і сынам. Пагасцілі, пагасцілі, і ад’язджаць пара. А ехаць ім трэба было на ракеце* да Кіева, а з Кіева да Мікалаева – на цягніку. Багаж сабраўся вялікі, і ўся радня праводзіла гасцей да Дняпра. Машыны ўласнай ні ў кога не было, і аўтобусы не хадзілі. Ішлі прыблізна тры кіламетры. Кожны што-небудзь нёс. І Любачка цягнула нейкі клунак. Было цяжка і спякотна. Адплываючы, Поля паабяцала выслаць Любачцы шубку.

Доўга дзяўчынка чакала шубку, ды так і не дачакалася.

**Ракета – невялікае пасажырскае судна на падводных крылах.*



# БЕЛЫ ЛЕБЕДЗЬ

Любачка заўсёды трапляла ў нейкія гісторыі. І кожны раз маці Любачкі ґаварыла: "І калі ж ты ўжо паразумнееш? Можа, прычасціць цябе трэба." І вось аднойчы, калі маці зазбіралася ў Любеч на Усяночную, Любачка пачала прасіцца: "Мамачка, вазьмі мяне з сабою! Мяне ж трэба прычасціць, каб паразумнела". Аргумент быў моцны.

Па дарозе да Дзеражыч Любачка весела бегла: яна то пераганяла ўсіх, то адставала. І раптам жанчыны пачулі, як дзяўчынка ўскрыкнула. Усе прыпыніліся. Любачка наступіла на цвік. Хтосьці пачаў дакараць цётку Мар'ю, навошта яна з сабою дзіця ўзяла. Жанчына маўчала. Яны ўжо дабраліся да пераправы. Было вельмі душна, збіралася навальніца. Перавозчыкі прыспешвалі жанчын. Нарэшце ўсе размясціліся ў трох лодках. Але не паспелі яны даплысці да сярэдзіны Дняпра, як зусім стала цёмна, нібы позна вечарам, падняўся вецер, заблiскала маланка і над галавою раз-поразляскатаў гром. Лінуў дождж. Любачка ад страху прыціснулася да маці. А маці і ўсе жанчыны маліліся. Лодку кідала з аднаго

боку ў другі, і яна кожную хвіліну гатова была перакуліцца. З божаю дапамогаю, як гаварылі жанчыны, яны дабраліся да берага. Вецер сціх, неба стала праясняцца, маланка бліскала ўсё радзей, грымела ўсё цішэй. Нарэшце і дождж перастаў. Нага ў Любачкі распухла. Маці да самага Любеча несла Любачку на плячах. Там знайшла медпункт. Дзяўчынцы прамылі рану, прыклалі мазь Вішнеўскага і перавязалі, а яшчэ зрабілі ўкол. Любачцы стала лягчэй.

Ля царквы было мнагалюдна. Такой колькасці народу разам Любачка ніколі не бачыла. Яе ўвагу прыцягнула адна маладая жанчына, далікатна апранутая і прычасаная. Такіх прыгожых жанчын дзяўчынка яшчэ ніколі ў жыцці не сустракала. Зачараваная Любачка, кульгаючы, падышла да жанчыны. Усю ноч яна правяла побач з ёю. Жанчына прыязна з дзяўчынкаю гаварыла і супакоіла маці, што Любачка ёй ніколькі не замінае, а наадварот. На развітанне Любачка сказала, што калі вырасце, то стане такой жа прыгожай.

Любачку прычасцілі. Усе ланцугом падыходзілі да бацюшкі, які кожнага хрысціў і даваў аблізаць маленечкую



залатую лыжачку з мёдам, а яму за гэта цалавалі руку. Нешта не вельмі прыемнае было для Любачкі ў гэтым аблізванні лыжачкі і цалаванні рукі.

Пасля службы маці вырашыла парадаваць Любачку і павяла ў магазін цацак. Дзяўчынка кідалася то да адной вітрыны, то да другой і ўголас прасіла купіць і тое, і гэтае. "Што за дзіця! – дзівілася прадаўшчыца. – Цацак не бачыла, ці што?" А цацак Любачка сапраўды ніколі не бачыла, ды яшчэ такой колькасці. Маці купіла маленькага, там былі і большыя, пластмасавага лебедзя за 30 капеек. Жанчыны гаварылі, што за такія грошы можна было купіць 1 кг хамсы. Усю дарогу назад Любачка не выпускала з рук лебедзя, не магла наглядзецца на яго прыгожую шыю, чырвоную дзюбачку і чырвоныя лапкі. Дома Любачка штодня выходзіла на вуліцу з лебедзем і кожнаму па чарзе давала пагуляць з ім, аж пакуль лебедзь не знік.

Калі Любачка падрасла, ёй даверылі пасвіць гусей. Назіраючы за птушкамі, яна ўспамінала белага лебедзя.



# МЕТКА НЕСЛУХА

Доўгімі восеньскімі і зімовымі вечарамі маці Любачкі спачатку сядзела за кудзеляй, а потым за кроснамі: ткала посцілкі, ручнікі, палатно. Для кожнага наймення – свая аснова. Яе снавалі. І не кожная жанчына ў вёсцы магла гэта зрабіць. Патрэбны былі ўменне і матэматычныя здольнасці. Любачка дапамагала маці: падавала клубкі і бегала поруч з аднаго канца хаты ў другі. Потым, калі аснова была гатова, яе накручвалі на навой, запраўлялі ў ніты і берда. Гэтым разам маці Любачкі ткала посцілку з узорамі. Праца складаная і патрабавала ўвагі. Абавязкам Любачкі было наступнае: ставіць дошчачку на рабро, калі маці запраўляла ўточныя ніткі для ўзора, і апускаць яе, каб замацаваць узор, або, інакш кажучы, заткаць. Дзяўчынцы не вельмі падабаўся такі занятак, і яна шкодзіла: устаўляла пальчыкі паміж ніткамі асновы - ніткі рваліся. Маці шукала абрыў, звязвала нітачкі. Гэта займала многа часу, ды і якасць вырабу зніжалася з-за вузельчыкаў. Калі справа ладзілася, маці ціхенька спявала. А тут стала не да спеваў, яна не разумела,

чаму ніткі рвуцца. Разглядала разрыў, звязвала – не, ніткі роўныя.

– Што за напасць! – у чарговы раз абурылася жанчына.

І тут яна здагадалася. Сурова паглядзела на Любачку і папрасіла больш так не рабіць, але дзяўчынка не паслухалася. Маці сказала, што дапамога ёй больш не патрэбна, Любачка можа адпачываць. Але ў Любачку, здавалася, нячысты ўсяліўся. Яна не адыходзіла ад станка і, як толькі маці мяняла панажы, устаўляла пальчыкі – ніткі рваліся. Цярпенне ў жанчыны скончылася.

– Адыдзіся, сатана! – разгневана выпаліла маці і адштурхнула Любачку чоўнікам, прыставіўшы яго да лба. З-пад чоўніка паказаўся тоненькі чырвоны струменьчык. На ўсё жыццё ў Любачкі засталася “метка неслуха” ад маці.







*Фрагмент малюнка А.Капцюга*

# ДУБЧЫКІ

Любачка была дзяўчынкай добрай і цікаўнай, любіла назіраць. Але рабілася непаслухмянай, калі ёй нешта забаранялі.

На агародзе ляжалі бярвенні. Любачцы падабалася на іх сядзець. Летам яна назірала, як цвіў бульбоўнік, як таямніча шамацела лісце на сцяблах кукурузы. Кукурузнік ёй здаваўся лесам. Зімою яна зачаравана разглядвала казачныя малюнкі на заснежаным агародзе і на небе.

І вось аднойчы зімою бацька Любачкі застаў яе за гэтым заняткам. Ён забраў Любачку дамоў і растлумачыў, чаму нельга сядзець на бярвеннях: яны халодныя – можна прастудзіцца. Праз некаторы час Любачка папрасілася пагуляць. Яе адпусцілі. Але Любачка не пайшла на вуліцу, яна зноў уселася на бярвеннях. Бацька ў другі раз забраў Любачку. Зноў патлумачыў, чаму нельга сядзець на хадодных бярвеннях, і прыгразіў дубчыкамі. Любачку ніколі не білі, і яна не ўспрыняла пагрозу. І вось Любачку бацька забраў і ў трэці раз. Ён моўчкі ўзяў дачку за руку, па дарозе прыхапіў некалькі мерзлых лазовых



дубчыкаў і паклаў на печ, каб размарозіліся. Праз некаторы час праверыў дубчыкі – гатовы. Загадаў Любачцы легчы на ложак і падняць спаднічку. Любачка паслухмяна выканала патрабаванне бацькі. Ён лёгенька, не на ўсю сілу, адзін раз ударыў Любачку, але гнуткі дубчык зрабіў сваю справу – кроў свіснула з ранкі. Любачка ад нечаканасці войкнула, а ў бацькі сціснулася сэрца ад жалю.

Больш Любачку ніколі не білі. Дастаткова было сказаць: “А дзе дубчыкі?” А калі дзяўчынка пайшла ў школу, бацькі не маглі нарадавацца на Любачку. Вучылася яна старанна, настаўнікі хвалілі. Сварыцца на Любачку ўсё ж прыходзілася, але толькі за тое, каб менш сядзела за ўрокамі. Нават выганялі на вуліцу.



# ЦЯГА ДА МАСТАЦТВА

Дзяцінства ў Любачкі было галодным, асабліва дашкольнае. Да таго ж яе мучылі фурункулёз, галавакружэнне, часта балеў жывот. Але ж, нягледзячы ні на што, гэта быў самы лепшы час. Вясковыя дзеці цягнуліся да мастацтва. Гурткоў не было, і яны самі прыдумвалі сабе занятак: парадыравалі аднавяскоўцаў. Іх увагу прыцягвалі балагуры, ныцікі, п’яніцы, людзі з дэфектамі мовы ці фізічнымі недахопамі. Любачцы далі ролю кульгавага зборшчыка падаткаў. Яна так дакладна перадавала інтанацыю і манеру гаварыць гэтага чалавека, а таксама яго паходку, што ўсе надрывалі жываты ад смеху. За такім заняткам Любачку ўбачыў хтосьці з настаўнікаў. Дзяўчынку вельмі саромілі: яна насмяялася з франтавіка, з адказнага дзяржаўнага работніка. Але гэта не адбіла ахвоту ў Любачкі ўдзельнічаць у самадзейных спектаклях.

Бадай што самым любімым заняткам для Любачкі было развучванне песень з пласцінак. Мнагадзетная сям’я Івана і Ганны мела патэфон. І дзяўчынка бегала да іх, каб



паслухаць новыя песні і запомніць.

А яшчэ Любачка і яе сябры цікавіліся гімнастыкай. Вучыліся садзіцца на шпагат, рабіць мосцік. І потым, на імправізаваных канцэртах, якія ладзілі каля рэчкі, у шылезе*, кожны мог паказаць сваё ўменне.



*Шылега – лазняк

# ЭПІДЭМІЯ

Любачка вучылася ў першым класе. На зімовых канікулах дзеці бавілі час за сялом: каталіся з гары на санках. Было весела. Усе разагрэліся, расчырванеліся і пачалі выхваляцца, хто болей прастаіць на снезе босымі нагамі. Пастаяла на снезе і Любачка. А ноччу ў яе паднялася тэмпература, горла аблажыла – Любачка задыхалася. Маці паіла дзяўчынку гарачай вадой, але гэта не дапамагала. Любачцы рабілася ўсё горш і горш. Раніцай бацька Любачкі папрасіў у старшыні калгаса каня і паехаў у суседнюю вёску па фельчара. Той добра ведаў сваю справу і адразу ж паставіў дыягназ: дыфтэрыя. Любачцы кожны дзень рабілі ўколы. Праз некалькі тыдняў дзяўчынка выздаравела і збіралася ісці ў школу. А ў нядзелю вечарам з Лоева прыехала цэлая дэлегацыя – урачы і міліцыя. Яны забіралі ўсіх хворых дзяцей. Бацькі Любачку не аддавалі, гаварылі, што яна ўжо акрыяла, што яе лячыў Чарнянок. Іх ніхто не слухаў. Урач у белым халаце толькі буркнуў, што Чарнянок працуе ў суседнім Брагінскім раёне, а за здароўе дзяцей у Лоеўскім раёне адказвае ён, таму і рашаць яму.



Любачку мыла старая санітарка, у якой былі вельмі шурпатыя рукі. Дзяўчынка не баялася, што ўпершыню аказалася адна сярод чужых людзей. Яна баялася ўколаў і нават прасіла, каб ёй іх не рабілі. Але на страх Любачкі ніхто не зважаў. Пасля некалькіх уколаў дзяўчынка з ложка ўстаць не змагла – яе паралізавала.

Усіх даўно ўжо выпісалі, і эпідэмія закончылася, а Любачка ўсё яшчэ была ў бальніцы. Маці дзяўчынкі пешшу прыходзіла амаль кожны дзень. Дарога ад Сяўкоў да Лоева няблізкая. І зіма выдалася снежная, марозная, з галалёдамі. У палату маці не пускалі – інфекцыйнае аддзяленне. А калі пыталася пра здароўе дзіцяці, то разводзілі рукамі. Маці пастаіць каля акна, паглядзіць на сваю дачушку і па марозу ідзе дадому. А на наступны дзень альбо праз дзень зноў прыходзіць.

Што рабілі ўрачы з Любачкаю – невядома. Але калі маці прыйшла ў чарговы раз, Любачка падняла адну ручку і апусціла, потым – другую. Затым падцягнула адну ножку і выпрастала, потым – другую. З гэтага дня Любачка пайшла на папраўку.

# АДЗЕННЕ НАВЫРАСТ

Любачка вучылася ўжо ў чацвёртым класе. У школе рыхтаваліся да раённага конкурсу мастацкай самадзейнасці. Любачка таксама ўдзельнічала. Яна спявала ў хоры. Дзяўчынкі павінны былі апрануць цёмныя спаднічкі і белыя блузкі. Мама пашыла Любачцы карычневую спаднічку-шасці-клінку, але навыраст. Падкараціць спаднічку не падрэзаўшы вельмі складана. Маці падрэзаць не дала – шкода матэрыялу. Штукарылі і над блузкай, з пляча старэйшай стрыечнай сястры. Любачку ў першы рад не паставілі, каб сваім выглядам яна не сапсавала эстэтычнае ўспрыманне членаў журы.

Усё дзяцінства Любачцы даводзілася насіць адзенне навыраст. На першае ў жыцці паліто Любачка зарабляла сама – пасвіла гусей. Прадаваць іх маці павезла ў Кіеў, там жыла яе родная цётка, а значыць, было дзе пераначаваць і было каму дапамагчы зрабіць пакупку.

Любачка не магла дачакацца маці. Яна і за вёску выбягала, і на дрэвы лазіла. Паліто было сапраўды прыгожае, з цыгейкавым



каўнерыкам, але зноў жа навырасt. Насіла яго Любачка з пятага па дзявяты клас. Спачатку паліто падкарацілі, не адразаючы вядома, а потым кожны год адпускалі. А ў дзясяты клас купляць паліто Люба паехала з маці ў Брагін. Перамералі ўсё, але яе памеру не аказалася. І ў старым хадзіць ужо неяк, і новага не падабраць. Прадаўшчыца параіла ім купіць паліто і перашыць гузікі, каб не такім шырокім выглядала. І зноў у Любы адзенне навырасt. А як хацелася!..



# МАМА ЗАХВАРЭЛА

Мама Любачкі захварэла. Цяжка захварэла. Яе адвезлі ў бальніцу. Спагадлівыя бабкі пры сустрэчы з Любачкаю ўздыхалі і ўжо называлі яе "сіратою". Любачка і бацька паехалі праведаць маці. Доктар завёў іх у палату і сказаў: "Вось паглядзіце на яе, тры дні нічога не есць. Паміраць сабралася". Маці паглядзела на Любачку і ціха прамовіла: "Мне нельга паміраць. Дзіця гадаваць трэба".

– Тады дапамагайце нам. Лекі – лекамі, а ежа – ежаю, – сказаў доктар і выйшаў.

Жанчына папрасіла зварыць для яе боршч з грыбамі і ўюнамі. Цётка Машка, родная бацькава сястра, і зварыла той рыбна-грыбны боршч, і накарміла сваячаніцу, і ўсё прыгаворвала: "Ты скажы, што табе яшчэ хочацца? Зварым і прывязём, толькі папраўляйся".

Пакуль мама была ў бальніцы, на плечы дзесяцігадовай Любачкі ўзвалілася частка хатніх клопатаў. У гэты час адносіны з бацькам парушыліся. Замест таго, каб падрымаць дачку-дзяўчо, калі ў яе нешта не атрымлівалася, ён зневажаў Любачку,



называў яе “няўмекаю” у прысутнасці аднавяскоўца, з якім выпіваў. Любачка не разумела, што здарылася з бацькам, чаму ён так змяніўся. Бацька Любачкі мог выпіць, але ў меру. Тых, хто перабіраў, называў “негадзяямі” і гаварыў: “Не ўмееш піць – не бярыся”.

Маці вярнулася з бальніцы, і на сэрцы ў Любачкі стала весялей. Але ж і пазней здаралася, што маці, знясіленая працай дома і ў калгасе, некалькі дзён, а то і тыдняў не магла ўстаць з ложка. І кожны раз яна давала сабе ўстаноўку акрыяць, прызначала тэрмін і абяцала занесці ў царкву лепшы ручнік ці абрус. Цікава, што ў вызначаны час яна падымалася і, перамагаючы слабасць, ішла ў царкву і несла абяцанае.



# МУШТУК

У жыцці Любачкі была адна непрыемная гісторыя, звязаная з муштуком*. У школе з’явіўся горн – неабходны атрыбут піянерскай арганізацыі. Усім хацелася хоць разок падзьмуць у яго. А паколькі сілы не хапала, дакладней – лёгкія былі слабымі, то гукі атрымліваліся вельмі смешныя. Кожны спадзяваўся, што менавіта яму даверацць стаць гарністам. Горн вырывалі з рук адзін у аднаго, бегалі з ім. І вось нейкім чынам гэты музычны інструмент апынуўся ў руках у Любачкі. Яна бачыла, што магчымасці падзьмуць у горн няма, і пабегла. За ёй – амаль уся школа. Дзяўчынцы нічога не заставалася, як схавацца ў адным не вельмі далікатным месцы – прыбіральні, якая ў вясковых школах знаходзілася звычайна на вуліцы. Але было позна.

Горн у Любачкі забраў піянерважаты. Які жах! Няма муштука. “Дзе муштук? Куды ты яго падзела?” – крычаў натоўп. Любачка сама не ведала, як такое магло здарыцца, але калі яна ўскочыла ў прыбіральню, штосьці булькнула. Пэўна, муштук.

Што было, я перадаць не бяруся.



Скажу адно: доўга Любачцы ўспаміналі гэты муштук. Калі купілі новы горн, яго для правядзення сходаў выдаваў сам дырэктар.



**Муштук (нем. Mundstuck) – дэталь духавога музычнага інструмента, якая спрыяе гукаўтварэнню; наканечнік, які прыцiскаюць да губ.*

# НАСТАЎНІКІ

Любачка вельмі любіла вучыцца, але ў пачатковай школе ёй не пашанцавала з настаўнікамі, якіх было некалькі.

Ксенія Лаўрэнцьеўна на ўроках крычала і цягала вучняў за вушы. Няхай яе крык і не адносіўся непасрэдна да Любачкі, але ўсё роўна дзяўчынка пужалася.

Тамара Сяргееўна крычала менш, але ж за кожную правіну яна біла дзяцей, ды не проста біла. Калі слова было няправільна напісана, Тамара Сяргееўна патрабавала класці на парту рукі і біла ўказкаю па пальцах. Хлопчыкаў цягала за вушы і за чубы, таўкла галавою аб парту і аб дошку.

Усё змянілася, калі ў чацвёртым класе іх стаў вучыць Іван Харытонавіч. Ён гаварыў спакойна, дзяцей не біў, вучні адчулі сябе вальней.

Аб настаўніках, якія Любачку вучылі ў старэйшых класах, дзяўчынка ўспамінае з вялікай цеплынёю і ўдзячнасцю.



# ПЕРШЫ ГАНДЛЁВЫ ВОПЫТ

Любачку, як лепшую вучаніцу, паслалі ў Лоеў прадаваць парэчку. Ёй ніколі не даводзілася гандляваць. Але ж трэба было зарабляць грошы на паездку ў Кіеў. Дырэктар абяцаў звазіць туды лепшых вучняў.

Калгасны шафёр прывёз Любачку на кірмаш, дапамог выгрузіцца і паставіў яе ў той рад, дзе былі гандляры з ягадамі. Адыходзячы, ён наказаў дзяўчынцы прадаваць, як усе, і абяцаў забраць яе пасля трох гадзін. На кірмашы такіх ягад аказалася многа, па цане 10 капеек за стакан. Торг ішоў вяла, пакупнікі казалі, што дарага, і праходзілі міма. Дзень выдаўся спякотным. Стаяць давялося на сонцы, але адысціся Любачка не магла, баялася пакінуць школьны тавар. Сонца прыпякала. Ягады пачалі страчваць сваю прывабнасць. І тады Любачка ўпершыню ў сваім жыцці прыняла важнае і смелае рашэнне: прадаваць ягады па пяць капеек за стакан. Каля Любачкі ўмомант сабралася чарга. Адны хвалілі за спрыт, другія лаялі за чаргу, гандляры былі незадаволены тым, што збіта цана.

І вось Любачка прадала апошні стакан

ягад, палічыла выручку, якая аказалася даволі цяжкай, таму што дваццаць пяць рублёў было дробяззю.

Любачка адчувала сябе шчаслівай ад таго, што змагла прадаць усе ягады, ажно дзесяць вёдзер, наталіць смагу, вымыць рукі, якія ад ягад былі непрыемна ліпкімі.

У школе Любачку не пахвалілі. Дырэктар згадзіўся, што знізіць цану трэба было, але ж не напалову. Любачку ніколі больш не пасылалі прадаваць ягады. Гэтай акалічнасці яна была вельмі рада.





# ПАЕЗДКА Ў КІЕЎ

Дзень паездкі настаў. Дырэктар школы Міхаіл Іванавіч абяцанне сваё выканаў. Да Кіева дабіраліся па Дняпры на ракеце. У тым годзе ў Савецкім Саюзе адбылася грашовая рэформа і бацькі доўга спрачаліся, колькі грошай даць Любачцы з сабою. Далі дзесяць рублёў. Любачка аказалася дзяўчынкай эканомнай. Яна купіла сабе басаножкі за пяць рублёў, капронавую хустачку за два рублі пяцьдзесят капеек і капронавую стужку за пяцьдзесят капеек. Такім чынам, на ўсё пра ўсё ёй засталося два рублі.

Для Любачкі гэта была першая паездка ў вялікі горад на некалькі дзён. Многае забылася, хаця некаторыя моманты захаваліся ў памяці на ўсё жыццё. Напрыклад, карціна Кіева ў дзень прыезду. Чырвоным дыскам вісіць сонца над гарызонтам. Мора зяляніны. А над зялянінай, у сонечных промнях, купалы, залатыя купалы.

Ад Кіева-Пячэрскай лаўры засталіся толькі назва і пачуццё страху.

Запомнілася Любачцы, як яны з Кацяю адсталі ад групы, пераблытаўшы дырэктара з

незнаёмым чалавекам. Школу нумар сто, у якой яны начавалі, дзяўчынкі знайшлі хутка, адрас быў. Міхаіл Іванавіч ці то вучыўся ў гэтай школе, ці то працаваў некалі, таму што яму дазволілі пасяліць дваццаць чалавек у музычнай зале. Галоўным прадметам, да якога забаранялася нават падыходзіць, было піяніна. Але як можна вытрымаць, калі такі цуд бачыш упершыню! І вядома, што адкрывалі і брынчалі. Тады з'яўляўся вартаўнік з пагрозамі. Ноччу дзеці заставаліся пад яго апекаю, дырэктар гасціў у родзічаў.

Помніць Любачка і сваё вяртанне дадому. Ад Дзяржыч да Сяўкоў яна ледзьве дайшла. Увесь дзень Любачка нічога не ела. Прадукты, якія купіла сабе на дарогу, укралі. А прасіць яна не прасіла.





# АКУЛЯРЫ

Любачка прыйшла ў школу ў акулярах. Гэтая падзея выклікала вялікую цікавасць. Каля класа выстраілася чарга. Усім хацелася паглядзець на Любачку – да яе ніхто акуляры ў сяле не насіў. Гэта лічылася вялікай заганай. Трэба сказаць, што дзяцей з дрэнным зрокам хапала, але ж бацькі самі забаранялі сваім дзецям прызнавацца. Ды хіба можна што-небудзь утаіць на сяле?

Каля дзвярэй шостага класа таўкатня. Старэйшыя вучні з цікавасцю заглядвалі ў клас і адыходзілі. Малодшыя – весела кпілі: “Сляпая, сляпая, глядзіце, Люба сляпая!” Дзяўчынка на знявагу ніяк не адгукалася, і абзывацца ў малых ахвота прапала. Той-сёй папрасіў прым*е*раць акуляры. Некаторыя выказалі меркаванне, што акуляры добра пасуюць Любачцы, яна нават папрыгажэла. Дарослыя і дзеці з тыдзень часалі языкі, а потым сціхлі.

Аднаго разу суседка паспрабавала пакрыўдзіць Мар’ю і папракнула яе сляпой дачкою. Жанчына спакойна і нават з гонарам, так падалося суседцы, сказала: “Усе самыя разумныя людзі носяць

акуляры, купі сваёй, можа, і твая паразумнее”. Больш пра акуляры ніхто не ўспамінаў. А праз год іх надзеў Адам, за ім Дуся, потым… адносіны да акуляраў у вёсцы змяніліся.





# НЕПРЫГОЖАЯ

З самага дзяцінства Любачцы ніхто не гаварыў, што яна прыгожая. Называлі разумнай, спагадлівай, неслухам, мама – "сонейкам", прыгожай – ніхто. Аднойчы, калі Любачка вучылася ў пачатковай школе, прыехала праверка. І вось адна жанчына, з правяраючых, назвала Любачку "цудоўнай дзяўчынкай". Любачка не была ўпэўнена, што цудоўная і прыгожая – гэта адно і тое ж, але ёй было вельмі прыемна. Так яе яшчэ ніхто не называў.

Любачка мела светла-русыя валасы, а бровы – чорныя-чорныя. Калі яна пайшла ў другі клас, іх стала вучыць новая настаўніца, Тамара Сяргееўна. Яна некалькі дзён запар хапала Любачку за руку і цягнула да рукамыйніка, прымушала змываць фарбу, ад чаго бровы ў дзяўчынкі рабіліся яшчэ чарнейшымі. Любачка дома плакала і ґаварыла, што хоча мець бровы, як ва ўсіх. А бацька суцяшаў яе: " Не плач, дурненькая, вырасцеш, усе будуць чарніць бровы, а ў цябе свае чорныя".

Кампліменты Любачка зрэдку атрымлівала. Хто гаварыў, што ў яе прыгожыя бровы, хто –зубы, хто – усмешка.

Аднойчы назвалі інтэлігентнай: “Ай-я-яй, такая інтэлігентная дзяўчына ў акулярах і без абутку”. Адзін незнаёмы чалавек сказаў: “Без акулярaў ты была б зусім непрыгожая, а ў акулярах – нічога”. Так Любачка і расла з усведамленнем, што непрыгожая. І калі атрымала прапанову рукі і сэрца, то задала пытанне свайму абранніку: ці прыгожая яна? Для сябе Люба вырашыла: калі атрымае адназначны адказ, што прыгожая, то замуж за яго не выйдзе, нягледзячы ні на што. Ён сказаў: “Не ведаю, як для каго, а для мяне – прыгожая”. І вяселле было.

Сёння Любоў Пятроўна ўпэўнена, што непрыгожых людзей няма, ёсць непрыгожыя ўчынкі. А прыбяры пень – і пень будзе прыгожы. Прыбірацца, канешне, трэба таксама з розумам і з густам.





# НАВУКА ПРАЦАЮ

У вёсцы дзяцей прывучалі да працы з малога ўзросту. Хлопчыкі дапамагалі бацькам пасвіць кароў, коней. Дзяўчынкі з дванаццаці гадоў працавалі ў калгасе. На нормы разбіваліся буракі, кукуруза, грэчка, лён. Жанчыне выдзялялася поўная норма, а дзяўчынкам – паўнормы. За лета буракі і кукуруза палоліся некалькі разоў, грэчка – адзін раз. А яшчэ хадзілі на праполку гуркоў, памідораў, морквы, якія на нормы не дзяліліся. Кожны сам і ўраджай збіраў са сваіх дзялянак, потым здаваў у калгас. А што тычыцца лёну, то трэба было выканаць увесь тэхналагічны працэс, аб якім спяваецца ў песні пра Ульяніцу, апрача пасеву. Спачатку лён бралі, потым абівалі, мачылі, слалі, падымалі, трапалі, часалі – і ўсё ўручную. Дзве апошнія аперацыі – трапаць і часаць – дзецям не давяралі: работа цяжкая, пыльная і адказная.

Чаго-чаго, а працы летам хапала, адпачываць не прыходзілася. У час уборкі зерневых на ток выходзілі вучні старэйшых класаў разам з дарослымі. Зерне перасыпалі лапатамі з аднаго месца ў другое, так

сушылі, каб не згарэла. Высушанае зерне пераносілі ў склад. Старэйшыя жанчыны насыпалі яго ў мяшкі маладзейшым і дзяўчатам. Адна з жанчын падахвочвала дзяўчат і ўсё наравіла насыпаць больш. Калі хто пярэчыў, заўважаючы: “Хопіць, яны яшчэ дзеці”, – маладзіца адказвала: “Нічога, няхай носяць, маладыя, здаровыя,  мы ўжо нанасіліся“. І Любе насыпалі мяшок не шкадуючы. Да склада Люба не дайшла – упала з тым мяшком, з носа пайшла кроў. Пасля гэтага здарэння Любу бацька на ток не пусціў. З брыгадзірам гаварыў сам. Люба хадзіла на працу, але на іншую.





# НЕЛЬГА СПАЦЬ…ЗАМЕРЗНЕШ

Люба была смелай дзяўчынай. У школу хадзіла за некалькі кіламетраў, прычым у другую змену: зімою – разам з аднакласнікамі, а восенню і вясною – часцей за ўсё адна, таму што многія мелі веласіпеды. Люба не баялася цемры, не баялася хадзіць паўз могілкі. Не было ў яе страху і тады, калі яна адправілася пехатою з Брагіна ў Малажын, дзе вучылася і жыла на кватэры ў самыя халодныя дні. У Брагін Люба ездзіла на камсамольскую канферэнцыю. Некалькі дзён яна не магла выехаць – дарогу замяло, і аўтобусы не хадзілі. І вось Люба надумала ісці. Яшчэ было б нічога, каб у такую дарогу сабралася раніцай, а то а трэцяй гадзіне дня. Спачатку дарога была добрая, утаптаная. Па марозіку ішлося лёгка. Ёй нават пашанцавала – нейкі чалавек падвёз кіламетры са два.

Зімою цямнее рана, але ад снегу і зорнага неба было светла. Люба радавалася, што хутка будзе дома. Яна ўжо мінула некалькі вёсак. Застаўся ззаду і лес, дзе стаяла вайсковая часць, і здзіўленыя вартавыя, якія спачатку затрымалі яе, а

потым паказалі дарогу, і вёска, у якой не было ніводнага агеньчыка ў вокнах. За вёскай дарогу зусім нядаўна расчысцілі трактарам, снег не паспеў яе засыпаць, таму ісці стала лёгка. Але вось дарога скончылася. Люба агледзелася, заўважыла кучкі торфу. Усё зразумела: дарогу чысцілі для таго, каб прывезці з балота торф. Яна вырашыла вяртацца назад у вёску. Ах, божухны, Люба правалілася ў кар’ер. На шчасце, ён аказаўся неглыбокім і Люба выбралася з яго адносна лёгка. Але не паспела зрабіць і некалькі крокаў, як шухнула ў другі кар’ер. Каб выбрацца з яго, прыйшлося добра пастарацца. Калі Люба трапіла ў трэці кар’ер, сілы яе пакінулі. Яна апусцілася на снег. Толькі цяпер дзяўчына адчула, як гудзяць ногі, як тахкае сэрца, але не ў грудзях, а ў ямачцы, што на горле. Адчула смагу. Яна ўзяла жменю снегу і паклала ў рот. Адчула асалоду ад нерухомасці. Павекі сталі закрывацца. Спаць, спаць… Павольна наплывала забыццё. З падсвядомасці спачатку ціха, а потым мацней і мацней гучаў яе ўласны голас: “Нельга спаць… нельга спаць… замерзнеш…” Люба схамянулася, рас-



плюшчыла вочы і скіравала позірк у неба. На яе спагадліва глядзелі месячык і зоркі. Люба паднялася. Цела не слухалася, паліто пакрылася ледзяной коркай. Ага, значыць, пачалася адліга. Кар’ер быў даволі глыбокі. Берагі абледзянелі, таму падцягнуцца на руках не было ні сілы, ні магчымасці. Страх авалодаў усёй яе істотай. Люба заўважыла, што снег асеў, яго зрабілася быццам бы менш. Прыйшла выратавальная ідэя. Люба стала ляпіць снежныя кругляшы, складваць іх адзін на другі ў вугал кар’ера. Колькі прайшло часу, пакуль Люба змагла выбрацца, яна й сама не магла сказаць. Былі хвіліны адчаю і надзеі. Выбраўшыся наверх, Люба з вялікай асцярогай выйшла на расчышчаную дарогу і вярнулася ў вёску. Пастукалася ў першую хату. Ёй адчыніў стары дзядок, насустрач выйшла і бабуля, завохкала, паглядзеўшы на дзяўчыну, дапамагла распрануцца і адправіла на печ спаць.

Разбудзілі Любу шэпт старой са старым. У печы патрэсквалі дровы, сквірчэла сала, бабуля пякла бліны. Люба спусцілася ўніз, павіталася. “Ці добра спалася, мая галубка?” – запытаўся дзед.

Старая замітусілася, паставіла на стол снеданне, стала частаваць дзяўчыну і распытваць, хто яна такая, адкуль і куды ідзе. Слухаючы, бабуля то вохкала, то дзівілася, то жахалася.

Паліто і абутак былі высушаны. Любу, як родную, правялі за вёску і паказалі дарогу. Старыя доўга яшчэ стаялі і глядзелі ўслед дзяўчыне.

Калі Люба вярнулася дадому, маці запытала:

– Што з табою было?

– Нічога, – адказала Люба. Ёй не хацелася трывожыць маці. Ды сэрца мацярынскае чуйнае. У тую ноч ёй сніўся сон, быццам бы яна збірала спелыя-спелыя вішні, нават пасмакавала некалькі ягад. Такі сон заўсёды да хваробы або да слёз. “Расказвай, – папрасіла маці, – я хачу ведаць, што з табою здарылася”.





# БАЦЬКАВЫ РУКІ

Калі мы становімся дарослымі і ўспамінаем сваіх бацькоў, якіх даўно няма, то ў памяці ўзнікаюць нейкія малюнкі. Любачка, успамінаючы бацьку, перш за ўсё бачыла яго рукі. Ніхто ў сяле не глядзеў за рукамі так, як ён. Пасля работы бацька старанна іх мыў, садзіўся каля варштата – любімага свайго месца, – даставаў трафейны ножык і пілку, вычышчаў пазногці, падпільваў іх і толькі пасля гэтага садзіўся за стол.

Другая карціна – бацька і люлька. Люлькі бацька Любачкі рабіў сам, іх у яго было некалькі. Курыць люльку для яго – своеасаблівы рытуал, для гэтага адводзіўся вячэрні час і выхадныя дні. Ён браў люльку, аглядаў яе, прачышчаў, набіваў тытунем і запальваў. Перадаць стан чалавека, які робіць што-небудзь з задавальненнем, цяжка – трэба бачыць. І вось трубка выкурана. Ён акуратна выбівае попел у скрыначку. Навошта? Вось гэта і здзіўляла ўсіх у сяле – попелам ён чысціў зубы. Гэтую прывычку бацька Любачкі прывёз з вайны. Так рабіў яго сябра-аднапалчанін,

азербайджанец па нацыянальнасці, і меў вельмі прыгожыя зубы. Бацька Любачкі на зубы не наракаў. Яны ў яго былі і прыгожыя, і здаровыя – зубнога болю да самай смерці не ведаў. Трэба сказаць, што і маці яго таксама зубнога болю не знала.





# РЫЖЫ

Хістаючыся і цяжка ступаючы, але ўпэўнена, як гаспадар, па вёсцы ішоў вялікі рыжы кот. Яго постаць і позірк зялёных вачэй в*ы*клікалі такі страх у аднавяскоўцаў Любачкі, што некаторыя не маглі крануцца з месца: па целе бегалі мурашкі і халодны пот струменьчыкам сцякаў між лапатак. На тварах сяльчан застылі жах і нямое пытанне.

Тры дні назад гэтага ката забілі і закапалі мужчыны, даведзеныя да адчаю жонкамі, а таксама шкодаю, якую ўчыняў кот. У вёсцы кот з’явіўся, можа, год таму назад. Адкуль? Невядома. Ён зусім быў непадобны да дамашніх катоў. Яго павадкі, пачуццё асабістай годнасці і перавагі выдавалі ў ім дзікага ляснога звера. Ні людзей, ні дзяцей Рыжы, так яго сталі называць, да сябе не падпускаў. Аблюбаваў кот двор удавы Сынклеты. Карміць сябе не патрабаваў, сам спраўляўся.

Праз які час ў сяле пачаліся прапажы: у аднаго – кураня, у другога – гусяня, у трэцяга – яечкі ў кубле выпіты. Цікава, што шкарлупіна ад іх заставалася зусім цэлай, толькі на носіку невялікая дзірачка. Некаторыя выказалі здагадку: тхор

панадзіўся. Другія пярэчылі, маўляў, хутчэй за ўсё – коршак. “І яечкі коршак п’е?” – заўважыў Кузьма. – “Яечкі, канешне, не коршак, – разважаў Мікіта, – а можа, і тхор, і коршак тут арудуюць”. Нарэшце наступіла разгадка. Цётка Анюта стала сведкай, як кот яечкі п’е. Карціна была такой нечаканай і цікавай, а выгляд ката такім важным і незвычайным, што жанчына нават не асмелілася выкрыць сябе ці спудзіць ката. Рыжы сядзеў на задніх лапах, пярэднімі акуратна пакручваў яечка, знаходзіў носік, лоўка надкусваў яго, потым падымаў і выпіваў так, як робіць гэта чалавек. Цырк дый годзе. Асцярожна клаў шкарлупіну пустога яечка і браў другое, потым трэцяе, чацвёртае, пятае. Рыжы аблізаўся, паглядзеў на аслупянелую жанчыну і важна выйшаў.

Пяць яечак яшчэ б нічога. Пакуль усю вёску абыдзе, чарга не хутка прыйдзе. А вось куранят ды гусянят шкода. Пасля таго як цётка Анюта стала сведкай кражы, Рыжы зусім перастаў таіцца. Разбой мог учыніць на вачах у дарослых і дзяцей. Мужыкі згуртаваліся і зрабілі тое, што задумалі, хаця справа была не з лёгкіх. Кот быў ду-жы і хітры. Многія мужчыны перажывалі,



гаварылі, што нават на вайне не адчувалі сябе так пагана, як пасля расправы з катом.

І тут на табе – Рыжы з таго свету вярнуўся. Кот зайшоў у Сынклецін двор. Некалькі дзён яго ніхто не бачыў, але трывога нарастала. Дзяцей бацькі на вуліцу не выпускалі. Любачка ўвесь дзень сядзела ля акна. Ёй было шкада і куранят, і ката.

І вось час помсты настаў. Калі раней Рыжы піў яечкі, душыў куранят толькі для таго, каб наталіць голад, то цяпер ва ўсіх дварах, апрача Сынклецінага, азвярэлы кот бязлітасна рабіў патраву: хатні птушыны маладняк душыў дзясяткамі.

Сяльчанам нічога іншага не заставалася, як… Прыгавор вынеслі: смерць вадою. Калі мужыкі выцягнулі мокры мяшок, спрачаліся нядоўга. Яны развялі вогнішча, паклалі ў яго мяшок і моўчкі сядзелі, аж пакуль касцёр не патух.



# ЯК РАНЕЙ МЫЛІ БЯЛІЗНУ

Ці ведае хто сёння, як раней мылі пасцельную і нацельную бялізну, пашытую з даматканага палатна? Ніхто? А Любачка ведае. Рабілася гэта так. У вялікую драўляную бочку складвалі бялізну, перасыпалі драўляным попелам, лепш за ўсё бярозавым. Потым залівалі варам* і пакідалі на некалькі дзён. Гэты працэс называўся заленнем. Пасля бялізну неслі на рэчку, дзе выбівалі з яе бруд пранікам*. Праца была цяжкай, асабліва зімою. Вада ў рэчцы ледзяная, рукі заходзіліся ад холаду. Зусім іншая справа сёння. На дапамогу чалавеку прыйшлі пральныя машыны і парашкі.



**Вар - вада ў стане кіпення, ці ўскіпеўшая вада.*
**Пранік - драўляная прылада для мыцця бялізны.*



# МІСТЫКА

Цёмным восеньскім вечарам Люба вярталася са школы і, як заўсёды, была ў сваіх думках. Вось і родная хата. Вокны не свецяцца. “Няўжо бацькі так рана спаць ляглі?” – здзівілася яна. Дзяўчына зайшла ў двор і аслупянела – у двары стаяла белая труна. Люба прыгледзелася і зразумела, што гэта звычайнае карыта, якое бацька змайстраваў для калгаснай фермы. Але страх не адступаў. Люба кінулася да дзвярэй – замок. Дрыжачымі рукамі дзяўчына адкрыла яго, ускочыла ў сенцы і закрылася на засаўку. Хуценька ўвайшла ў хату і ўключыла святло. Адразу ж пачуўся грукат. “Магчыма, дошкі, што ляжаць на прызбе, абваліліся”, – падумала Люба і падбегла да акна. Дошкі на месцы: ляжаць як ляжалі. Ад страху яна выключыла святло. І тут Любу нібы маланкай апаліла – яна ўспомніла павер‘е: калі чуеш грукат, быццам бы дошкі падаюць, то гэта папярэджанне аб смерці. Страх авалодаў усёй яе істотай.

– Люба, адчыні, чуеш, Люба! – даносіўся мамін голас адначасова са стукам у дзверы. Гэта вывела Любу з стану здранцвення. Яна

схамянулася, хуценька адчыніла і ўбачыла заплаканую маці і згорбленага бацьку.

– Што здарылася? – спытала Люба.

– Іван памёр, – адказала мама.

Іван – муж зводнай Любінай сястры, яшчэ малады чалавек, працаваў заатэхнікам у калгасе. Яго пачаставалі спіртам, але не папярэдзілі, што спірт. Іван задыхнуўся. А дабрадзеі, што частавалі, дапамогу аказаць не змаглі.

З гэтага часу Люба пачала баяцца цемры і могілак. А дарога са школы якраз ішла ўздоўж пагоста, іншай не было. Некалькі разоў маці аднакласніцы Раі праводзіла Любу, але ж колькі можна. Каб хутчэй мінуць могілкі, Люба спрабавала бегчы, але ёй здавалася, што нехта ззаду гоніцца, і яна сцішвала хаду.

Трэба сказаць, што з цягам часу дзяўчына змагла перасіліць свой страх.





# АРТЫСТКА

Люба марыла стаць артысткай. Яе мара ўзмацнілася пасля таго, як яна ў Мінску пабыла на спектаклі аднаго з маскоўскіх тэатраў "Дні Турбіных". Сцэну, калі сям'я атрымала вестку аб смерці Аляксея, Люба ўзнаўляла дома. Яна паўтарала рэпліку: "Забілі, забілі Алёшу" – і падала, быццам бы страціла прытомнасць, чым напалохала аднойчы бацьку, які зайшоў у хату на крык дачкі і ўбачыў яе на падлозе.

У школе Люба з задавальненнем удзельнічала ва ўсіх канцэртах. Ёй давяралі галоўныя ролі ў спектаклях. І мянушка ў Любы была адпаведная – Артыстка. Сябры часам правяралі яе здольнасці. Аднойчы паспрачаліся: ці зможа Люба зрабіць нешта такое, каб настаўнік Аляксандр Фёдаравіч паверыў. І вось зімою на ўроку фізкультуры Люба папрасіла аднакласнікаў сказаць настаўніку, што яна ногі абмарозіла (мароз сапраўды быў вялікі, а Люба ў лёгкім абутку). Сама ўселася на снезе і пачала плакаць, што не можа ісці: ногі баляць. Слёзы ліліся з вачэй ручаём. Перапалоханы Аляксандр Фёдаравіч збегаў за санкамі,

пасадзіў на іх Любу і прывёз у школу. Люба паднялася з санак, вінавата ўсміхнулася і сказала:

– Прабачце, Аляксандр Фёдаравіч, мы паспрачаліся.

– Ну артыстка, ведаў жа, што артыстка, а паверыў! – не абураўся, а, наадварот, радаваўся настаўнік.

Калі ў школу завітаў былы яе вучань, артыст Аляксей Аляксеевіч Слесарэнка, Любу з ім пазнаёмілі. Ён паслухаў, як яна чытае вершы і байкі, і параіў паступаць не на акцёрскае аддзяленне, а на аддзяленне мастацкага слова. Нават абяцаў сваю дапамогу.

У Мінск Люба прыехала позна. Набор у тэатральны інстытут скончыўся, і яна паступіла ва ўніверсітэт на філалагічны факультэт. Што мара не здзейснілася, Люба не шкадуе. У яе на ўсё жыццё застаўся дэвіз ад тэатральнага дзеяча К.С.Станіслаўскага, працы якога Люба з задавальненнем чытала: “Трэба адмовіцца, адмовіцца ад самааплаквання і самааплёўвання. Плач і сумуй дома альбо сам сабе, а на людзях будзь бадзёрым, вясёлым і прыемным”.



# РУМЫНКІ

Жыццё Любачкі стала больш сытым пасля таго, як яе бацька разам з аднавяскоўцамі стаў прадаваць бульбу, у асноўным на Украіне. Адтуль ён прывозіў муку, крупы, цукар. З цягам часу прыдбалі карову, развялі гусей, пасадзілі сад. Сёння не ўсе ведаюць, што некалі сяляне абавязаны былі плаціць падатак за кожнае садовае дрэва, пчаліны вулей, за хатнюю жывёлу звыш адной галавы. А паколькі грошай за працу ў калгасе не атрымлівалі, то і падатак нечым было аддаваць. Таму саджаць сады, разводзіць пчол пачалі толькі пасля адмены падатка.

І вось з адной такой паездкі бацька прывёз Любе чорны шавіётавы касцюм і румынкі з футрам у сярэдзіне. Раскоша непамерная! Румынкамі называлі мадэль чаравікаў. У касцюме Люба выглядала занадта дарослай, а вось румынкі – зусім іншая справа. Люба так радавалася, што гатова была і спаць у іх класціся. Але маці сказала: “Румынкі не на кожны дзень, беражы на выхад“.

Люба збіралася ў Лоеў да акуліста.

Абулася ў румынкі, нягледзячы на мароз і на ўгаворы маці. Дзяўчыне хацелася выглядаць прыстойна.

Свае справы яна ўладзіла – часу вольнага заставалася многа. А каб зусім не змерзнуць на вуліцы, зайшла ва ўнівермаг, потым у кніжны магазін, які быў недалёка ад аўтобуснай станцыі. Яна разглядала кніжкі, гартала іх, чытала. Прадавец звярнуў увагу на дзяўчыну, якая не па-зімоваму была абута. Распытаў, чыя яна, адкуль. Потым вынес валёнкі:

– На, галубка, абувайся, ногі цяпло любяць. А валёнкі перадасі з кім-небудзь, ці сама другім разам прывязеш. Я тваіх бацькоў ведаю, добрыя людзі.

Бачыце, добрыя людзі ёсць на свеце. Люба і сёння з удзячнасцю ўспамінае гэтага чалавека, яго, мабыць, і ў жывых няма, а памяць аб сабе ён пакінуў надоўга.





# ДЗЕДАВА НАВУКА

Было гэта даўно. Любачка, здаецца, яшчэ і ў школу не хадзіла. Яна часта бегала да дзядулі з бабуляй у суседнюю вёску, дзе гуляла са стрыечнай сястрою Таняй. І ў той памятны для яе дзень Любачка была ў Бераснёўцы. Бабуля Аўдзюха пякла хлеб, а дзядуля Пятро цісnуў алей з ільнянога насення. Пах аднаго і другога разносіўся па падворку. Любачка з Таняю ўжо нічым займацца не маглі, чакалі. І вось бабуля вынесла ў садок адзін за другім духмяныя боханы хлеба, гаспадарліва накрыла даматканым ручніком, а дзядуля вынес у шкляным слоіку такі ж духмяны алей. Дзядуля наліў у талеркі алей, паставіў салонку і ўзяў у рукі бохан хлеба. Потым загадкава паглядзеў на дзяўчынак і запытаўся, ці ведаюць яны, як правільна трэба адразаць хлеб. Любачка была старэйшай, таму дзядуля спачатку падаў нож ёй. Любачка глядзела на круглы хлеб і не ведала, з якога боку падступіцца. Убачыўшы яе разгубленасць, дзядуля забраў нож і сказаў: "Хлеб трэба рэзаць ад ілба". Ён перахрысціўся і дадаў: "Дзякуй табе, Божа,

за хлеб-соль, якія ты нам пасылаешь". Потым паглядзеў на Любачку: "Табе, Любачка, якую скібку адрэзаць, паньскую ці сялянскую?" Любачка зноў разгубілася, таму што не ведала, чым яны адрозніваюцца. Для яе больш загадкавым было слова "паньскую", таму яна і папрасіла панскую. Дзядуля адрэзаў танюсенькую скібку праз увесь бохан і падаў ёй.

– Ну, а табе, Таня, якую? – звярнуўся ён да другой унучкі. Таня не разгубілася і папрасіла сялянскую. Дзядуля ёй адрэзаў ладную лусту хлеба, а на Любачку паглядзеў і лагодна ўсміхнуўся.



# ПАСЛЯСЛОЎЕ

Любоў Пятроўна ўдзячна ўсім добрым людзям, якія сустрэліся ёй у дзяцінстве. Яна ўдзячна сваім бацькам, дзядулі з бабуляю, роднай цётцы Машцы, стрыечнай сястры Наташы. Іх спагадлівыя сэрцы заўсёды адгукаліся на чужую радасць і бяду. Удзячна другой сваёй цётцы, Агрыпіне. Яе шчодрай душы хапала на ўсіх: кожнае лета цётка прымала гасцей.

Удзячна суседцы бабе Зене, ад якой Любачка бачыла многа ласкі і спагады, усёй яе сям’і. Удзячна прадаўцу Лоеўскага кніжнага магазіна. Удзячна Насці Поўжык, з ёю часта Люба гаварыла аб літаратуры. Удзячна Мані, жонцы стрыечнага брата Васіля, у якой вучылася працаваць.

Люба ўдзячна ўсім настаўнікам Сяўкоўскай школы і Малажынскай, родным, сябрам, аднакласнікам, аднавяскоўцам.

Яна ўдзячна тым сцяжынкам, па якіх бегала, таму полю і лугу, на якіх працавала, той рэчцы, якой любавалася, тым зоркам і небу, якім давярала свае мары.

ТПА

# ЗМЕСТ

## ЛЮБАЧКА
Замалёўкі

Літаратурна-мастацкае выданне

Аўсяннікава Тамара Пятроўна

**ЛЮБАЧКА**

Замалёўкі

Рэдактар *Людміла Папова*
Тэхнічны рэдактар *Давід Венцэк*
Карэктар *Алена Асадчая*
Камп`ютарны набор *Тамара Аўсяннікава*
Камп`ютарная вёрстка *Таццяна Снігірова*

Выдавец Давід Венцэк

Друкарня D&D Sp. z o.o. Польшча 44-100
г.Глівіцэ, вул.Манюшкі, д.6
druk@dd.com.pl
Тыраж 60 экз.

ISBN: 978-83-930867-4-0